Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Намеснік галоўнага рэдактара
Усевалад Рагойша
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 680.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-2083

# НАВІНЫ



Аўторак, 4 жніўня 1998 г. № 79 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Мінчане выбіраюць прэзідэнта

**Толькі 20% апытаных жыхароў Мінска гатовыя сёння аддаць свае галасы на прэзідэнцкіх выбарах за Аляксандра Лукашэнку. Столькі ж адказалі, што ўвогуле не бачаць дастойных кандыдатаў.**

Даследаванне праводзіла ў канцы ліпеня сацыялагічная служба «Зеркало». Мінчанам ва ўзросце 18 гадоў і старэйшым было прапанавана адказаць на пытанне «За каго вы аддалі б свой голас, калі б новыя выбары прэзідэнта Беларусі адбыліся сёння?» Лідэрства ў спісе атрымаў Лукашэнка — 20%; большасць з іх жанчыны, людзі ва ўзросце за 50 гадоў і з невысокім узроўнем адукацыі.

Другое месца з вынікам 6% галасоў падзяляюць Генадзь Карпенка і Станіслаў Шушкевіч. Далей ідуць Зянон Пазьняк (5%) і Станіслаў Багданкевіч (3%). Сярод іншых магчымых кандыдатаў на пост прэзідэнта называліся Юрый Хадыка, Сямён Шарэцкі, Валянціна Палевікова.

Кожнаму чацвёртаму мінчаніну было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

*БелаПАН*

### Смерць адваката

*Ён быў гатовы змагацца з несправядлівасцю самымі радыкальнымі метадамі*

**Заўтра ў Наваполацку будуць хаваць адваката Аляксея Філіпчанку, які тры тыдні таму, пратэстуючы супраць самавольства мясцовых уладаў, падпаліў сябе перад будынкам гарадскога суда. Ён памёр у мінулую пятніцу ў Віцебскім абласным апёкавым цэнтры.**

Нашая газета паведамляла аб тым, што адвакат Філіпчанка абараняў у судзе інтарэсы пенсіянеркі Антаніны Воранавай, на кватэру якой прэтэндаваў яе былы муж. Але абараніць правы сваёй кліенткі законным чынам Філіпчанку не ўдавалася. У пачатку лета Воранаву нават спрабавалі выселіць з кватэры пры дапамозе міліцыі. Аляксей Філіпчанка ўжо тады ўпершыню пагразіў міліцыянтам, што калі тыя не пакінуць жанчыну ў спакоі, ён абальецца бензінам і падпаліць сябе.

Судовая цяжба працягвалася, нягледзячы на ўсе пратэсты адваката і праведзеную ім галадоўку. Наадварот, Філіпчанку за ягоную дзейнасць збіраліся пакараць адміністратыўным арыштам. Вось тады ён і рашыўся на свой апошні адчайны крок. Проста на плошчы перад судом Філіпчанка выліў на сябе тры літры бензіну і чыркнуў запальніцай.

Міліцэйскаму нараду ўдалося збіць полымя, але 70% скуры адваката ўжо былі пашкоджаныя агнём. Пяць сутак медыкі спрабавалі выратаваць яму жыццё ў наваполацкім шпіталі, потым Філіпчанку перавялі ў Віцебск, але выжыць пры такіх апёках — у яго не было шанцаў.

Медыцына можа многае, але цудаў не бывае. У супрацоўнікаў Віцебскага апёкавага цэнтра не было сумненняў адносна далейшага лёсу адваката — пры такіх пашкоджаннях скуры людзі не выжываюць. І так дзіўна, што Аляксей Філіпчанка змог пражыць тры тыдні, сказаў у размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ адзін з лекараў цэнтра.

Дарэчы, першыя дні пасля самаспалення адвакат быў пры памяці: ён сказаў, што добра ўсведамляў, на які крок ідзе. Псіхіятры таксама не выявілі ў яго ніякіх псіхічных хваробаў.

Хутчэй за ўсё адвакат Аляксей Філіпчанка належаў да той катэгорыі людзей-ідэалістаў, якія гатовы змагацца з несправядлівасцю самымі радыкальнымі метадамі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### БНФ спявае на стадыёне

**У турніры на кубак Свабоды, які прайшоў 1 жніўня на стадыёне ў сталічным парку Чэлюскінцаў, перамагла каманда Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

Яна выйграла ў Народнай Грамады (з лікам 8:2) і ў Беларускага Народнага Фронту (2:1). Другое месца заняла каманда БНФ, якая перамагла сацыял-дэмакратаў з лікам 4:2. Насуперак абяцанням, сярод гульцоў не было такіх палітыкаў, як Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар і Лявон Баршчэўскі. З палітычных «зорак» у гульні выдзяляліся толькі дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў Юрый Беленькі і Анатоль Лябедзька.

Каманда АГП аказалася больш тэхнічнай і лепш трэніраванай, затое іх праціўнікі з БНФ прывязлі з сабою моцную групу падтрымкі — жаночы хор, які на працягу матчаў спяваў бадзёрыя песні.

*БелаПАН*

*Міжнародны паход «За бяз'ядзерную Беларусь» пачаўся ў мінулую суботу ў Магілёве*

## Паход супраць АЭС

**Гэтая акцыя — пратэст супраць планаў беларускага ўрада будаваць на тэрыторыі нашай краіны атамную электрастанцыю.**

Як паведаміла Наталля Падабед, прадстаўнік магілёўскага аддзялення міжнароднага экалагічнага руху «Хранители радуги», мэта гэтага паходу — *«паінфармаваць людзей, што ў хуткім часе яны могуць стаць закладнікамі атамнага лобі Беларусі і Расіі»*. На думку эколагаў, будаваць у Беларусі атамную электрастанцыю вельмі небяспечна. *«Нельга гарантаваць высокую якасць будаўніцтва, а значыць — магчымы новы Чарнобыль. Не кажучы ўжо пра тое, што некалькі мільярдаў долараў, што патрабуюцца на будаўніцтва, для сённяшняй Беларусі — залішняя раскоша»*, — лічыць Наталля Падабед. Па некаторых звестках, у Расіі ўжо ёсць праекты ўрадавых рашэнняў, паводле якіх Беларусь атрымае крэдыт на будаўніцтва АЭС.

Маршрут паходу праходзіць па Быхаўскім і Шклоўскім раёнах. Як вядома, на іх тэрыторыі вызначана адна з пляцовак пад магчымае будаўніцтва АЭС. Удзельнікі паходу мяркуюць сустракацца з жыхарамі вёсак, раздаваць ім улёткі, у якіх — праўдзівая інфармацыя пра «беларускую АЭС». Як паведаміла Наталля Падабед, мяркуецца такі ж паход правесці пазней у Віцебскай вобласці, дзе таксама знаходзіцца адна з пляцовак для АЭС.

Арганізавалі паход актывісты экалагічных групаў з Беларусі, Украіны і Польшчы. У паходзе бярэць удзел каля 30 чалавек. Усе ўдзельнікі — маладыя людзі ад 18 да 30 гадоў, студэнты, навукоўцы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Асаблівы рэжым

**З учарашняга дня «ўся краіна працуе ў асаблівым рэжыме». Такую ўстаноўку даў Лукашэнка, выступаючы ў пятніцу на селектарнай нарадзе па пытаннях уборкі ўраджаю.**

Лукашэнка заявіў, што асноўай беларускай дзяржавы і яе незалежнасці былі і застаюцца хлеб і бёска. Для непанятлівых прэзідэнт удакладніў, што азначае гэты «асаблівы рэжым»: *«Все живое, все, что движется или способно двигаться, — должно быть направлено на уборку урожая, на нормальное функционирование народного хозяйства»*.

**Б.П.**

## Дэсантнікі святкуюць — міліцыя баіцца?

**У нядзелю, 2 жніўня, хадзіць па Мінску было не зусім бяспечна. Былыя салдаты-дэсантнікі святкавалі Дзень паветрана-дэсантных войскаў.**

Нічога кепскага ў саміх святах няма. За людзей, якія святкуюць, можна парадавацца. Але толькі ў тым выпадку, калі гэтае святкаванне не пераходзіць межы прыстойнасці.

Вядома, што для многіх мужчынаў час службы ў войску — вельмі важны перыяд, пра што пасля на ўсё жыццё застаюцца ўспаміны і сентыменты. Вайскоўцы-дэсантнікі асабліва ганарацца сваёй салдацкай дружбай і традыцыямі. Тым, што яны — сапраўдныя мужчыны: дужыя, смелыя, адважныя.

На маладых высокіх хлопцаў у дэсантнай форме, з блакітнымі барэтамі на галовах — глядзець прыемна. На п'яных мужыкоў, якія брыдка лаюцца на ўвесь голас, ходзячы па вуліцах твайго роднага горада, — глядзець гадка. На жаль, Дзень паветрана-дэсантных войскаў у Мінскуператварыўся менавіта ў масавую п'янку.

Дэсантнікі збіраліся ў парку Чэлюскінцаў, куды ў выхадны дзень прыйшло адпачываць нямала мінчанаў з дзецьмі. Я не ведаю, што тлумачылі дзядулі сваім унукам: чаму гэтыя дзядзькі ў паласатых майках п'юць гарэлку з гарла і мацюкаюцца на ўвесь парк; чаму яны не лічаць патрэбным прайсці пяцьдзесят метраў да прыбіральні, а задавальняюць свае патрэбы там жа, дзе і п'юць; чаму міліцыя глядзіць на гэта ўсё спакойна?

Міліцыі, трэба сказаць, было шмат. Увесь час дэсантнікаў пільнавалі ўзмоцненыя патрулі, магчыма, таму і не дайшло да боек. Але міліцыянты сапраўды глядзелі скрозь пальцы на ўсё, што выраблялі нецвярозыя дэсантнікі. Натоўп п'яных маладзёнаў прайшоўся ад парка Чэлюскінцаў па праспекце Скарыны да цэнтра горада — з крыкамі і лаянкай. Увесь час іх суправаджаў чырвоны міліцэйскі аўтобус, але не больш за тое.

Ніхто не пытаўся ў іх дазволу гарадскіх уладаў на гэтае шэсце і не спрабаваў спыніць «несанкцыяваную акцыю». Відаць, нашая міліцыя добра ведае: біць, хапаць, арыштоўваць можна толькі апазіцыянераў. Да дэсантнікаў падступацца страшна — можна пасля і касцей не сабраць.

**Магдалена НЕПАКАЙ**



*На здымках: былыя дэсантнікі ідуць уздоўж праспекта Скарыны пад аховаю міліцэйскага УАЗіка (унізе); у некаторых былі праблемы нават з надзяваннем штаноў...*



## Вучыся мыцца халоднай вадой

**У Магілёве па ўсім горадзе можа быць адключаная гарачая вада — аж да пачатку ацяпляльнага сезона.**

Пра гэта паведамілі прадстаўнікі Магілёўскага аблвыканкама. Улады баяцца, што не здолеюць назапасіць неабходную колькасць паліва на зіму, таму даводзецца эканоміць. Аб гэтым ішла гутарка на сустрэчы аблвыканкамаўцаў з мясцовай асацыяцыяй прамыслоўцаў і афіцыйнымі прафсаюзамі. Чыноўнікі таксама адзначылі, што прамысловасць у нас працягвае «расці». Але прадаецца прадукцыі ўсё менш. У Бабруйску, напрыклад, ажно 74% (тры чвэрці!) выробленай прадукцыі ляжыць на складах, а ў Магілёве амаль 30% прадпрыемстваў — стратныя.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Падаткі з золата і срэбра

**Падатак на продаж каштоўных металаў і вырабаў з іх уведзены ў Бабруйску рашэннем мясцовага гарвыканкама.**

5% ад тавараабароту пойдзе цяпер у мясцовы бюджэт. А залатыя ланцужкі і дыяментавыя завушніцы стануць яшчэ даражэйшыя. Што ж, здаецца, гэта не самы хадавы тавар...

Іван ЗАСАДА

ЖНІВО

# Цыгарэты – толькі камбайнерам

**У Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці камбайнеры на час жніва атрымалі прывілей. Тытунёвых вырабаў айчыннай вытворчасці, якія танна каштуюць, на ўсіх не хапае, і ўлады вырашылі забяспечыць цыгарэтамі выключна «герояў жніва». Астатнія няхай кураць усякую там мальбру.**

Старшыні калгасаў як агню баяцца вертыкалі, таму нярэдка падавалі несапраўдныя звесткі аб колькасці гатовых да жніва камбайнаў. Гэта неаднойчы выяўляў дзяржкантроль. Напрыклад, у калгасе «Ленінскі шлях» Карэліцкага раёна на 14 «Нівах» і «Донаў» не было аніводнага акумулятара. Па афіцыйных дадзеных, своечасова было адрамантавана 85% камбайнаў, але рэальна ў полі працуюць толькі 70%. Тэхніка старая, у некаторых калгасах камбайнам па 14-15 гадоў. Сталі паступаць з Расіі новыя па гэтак званым лізінгу. Але за адзін такі камбайн калгасу давядзецца заплаціць адну тысячу тонаў самага лепшага збожжа, а гэта — 17 чыгуначных вагонаў.

Ясна, што такія кошты не для кожнага рэальныя. Таму ў Слонімскім і Дзятлаўскім раёнах здолелі набыць толькі па адным «лізінгавым» камбайне, а ў Мастоўскім і Ашмянскім — аніводнага (у вобласці 17 раёнаў). Каб выкруціцца, гаспадаркі Бераставіцкага раёна пачалі купляць не новыя, а «ўжываныя» камбайны. Дарэчы, калгас «Бераставіцкі» пачаў жніво з таго, што былі ўбраныя 50 га кмену (больш за тону з гектара), які сеялі на заказ Гродзенскага хлебакамбіната.



*У добрых гаспадарках пра камбайнераў клапоцяцца па-сапраўднаму — каб мелі не толькі цыгарку, але і суп ды кашу. На здымку: камбайнеры калгаса «Камінтэрн» палуднуюць у полі.*

Бітва за ўраджай пачалася не на жарты. Таму на сесіі Лідскага райсавета адзін з дэпутатаў выступіў за тое, каб камбайнеры «не дапускалі масавай гібелі лясных жывёлін і птушак пад нажамі жнярак». Камбайнеры яго не пачулі. Але што праўда, дык абласныя ўлады абвясцілі жніўнае спаборніцтва з грашовымі прэміямі для лепшых гаспадарак. Дык вось, асобным пунктам зазначана, што разлічваць на прэміі могуць толькі тыя калгасы, дзе не будзе чалавечых ахвяраў на жніве.

Такое «спаборніцтва» абвешчанае і ў кожным раёне. Але ўзнагароды — мізэрныя. У Бераставіцкім, напрыклад, лепшы камбайнер атрымае ўсяго 5 мільёнаў рублёў. Праўда, харчаванне для іх бясплатнае. Дарэчы, самі заробкі месцамі вельмі неблагія. Да прыкладу, у першыя дні жніва некаторыя механізатары ў Свіслацкім раёне зараблялі па мільёну ў дзень. Іншая справа, што не паўсюль яны атрымаюць гатовыя грошы, а «натуральную аплату» — тым самым збожжам.

### Трактарысты, на камбайны!

У некаторых калгасах не хапае камбайнераў, таму пад час жніва на камбайны садзяць трактарыстаў. Аднак гэта даволі ненадзейная публіка.

У Зэльвенскім раёне, напрыклад, за апошні час было затрымана тры дзесяткі чалавек, якія знаходзіліся за рулём моцна нападпітку. З іх большасць — трактарысты. Асабліва часта трапляюцца механізатары з калгаса Леніна, не даражаць імем правадыра. Перасеўшы з трактара ў аўтамабіль, яны таксама нярэдка робяцца небяспечнымі, не спраўляюцца з хуткасцю. Так, трактарыст з калгаса «Радзіма» імчаў на сваім аўто, ды перакуліўся. З месца здарэння ўцёк, кінуўшы і машыну, і параненую пасажырку.

Андрэй ДУРЭЙКА

## Звальняешся? Выселім!

**Улады ў чарговы раз спрабуюць затрымаць людзей на вёсцы адміністратыўнымі метадамі.**

Вёска пусцее — гэта факт. За 1996 год колькасць сельскага насельніцтва Беларусі зменшылася на 30,3, а за 1997 год — на 32,4 тысячы чалавек. Не бачна асаблівага эфекту і ад таго, што большасць кіраўнікоў мясцовай улады краіны мае сельскагаспадарчую адукацыю. Кардынальна нічога не мяняючы, кіраўніцтва краіны прымае захады, каб адміністрацыйнымі метадамі затрымаць людзей у калгасах і саўгасах.

Нядаўна крокі ў гэтым накірунку зрабілі прэзідэнт і ўрад. Падпісаны ўказ № 98 «Аб дадатковых мерах па развіцці жыллёвага будаўніцтва на сяле». Ім рэгламентуюцца ўмовы крэдытавання такога будаўніцтва, а саўмін павінен распрацаваць і зацвердзіць парадак выкарыстання жылых дамоў, пабудаваных за кошт льготных крэдытаў, дадзеных калгасам і саўгасам, а мэта — замацаванне работнікаў у сферы сельскагаспадарчай вытворчасці.

Урад у выніку прымае пастанову № 788, згодна з якой такія дамы адносяцца да разраду службовых. Гэта значыць: чалавек, атрымаўшы дом у калгасе, набывае статус амаль прыгоннага селяніна. Зарплата ў сельскай гаспадарцы па большасці мізэрная, але работнік вымушаны будзе працаваць у калгасе ці саўгасе, бо калі знойдзе больш аплачваемую працу ў іншым месцы і звольніцца, то яго папросту выселяць.

Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ

## Шлюб у следчым ізалятары

**Нядаўна ў Смаргоні адбылася неардынарная падзея. Аддзелам ЗАГС зарэгістраваны шлюб зняволенага, які знаходзіцца пад следствам, і жыхаркі горада.**

Цырымонія шлюбу была самая звычайная. Вось толькі жаніх прыехаў у ЗАГС на спецыяльнай машыне па перавозцы зняволеных і ў наручніках. Сведкаў і гледачоў замянялі канвойныя міліцыянты. Былі абмен пярсцёнкамі і пацалункі, быў вясельны марш. Не было толькі шампанскага. Пасля рэгістрацыі маладога мужа міліцыя адвезла назад у камеру ізалятара, а маладая жонка адправілася дадому.

Не спынілі нявесту ні розніца ва ўзросце на 10 гадоў, ні папярэдняя і магчымая новая судзімасць. Жаніх быў раней асуджаны, і першая жонка развялася з ім, калі ён адбываў пакаранне ў калоніі. На свабодзе ён прабыў каля года. За гэты час паспеў сустрэць і пакахаць сваю новую абранніцу.

Дарэчы, і злачынства, у якім яго падазраюць, у пэўным сэнсе звязанае з каханнем. Следства мае такую версію: нявеста яму пажалілася, што яе гадоў пяць таму абразілі маральна і фізічна. Жаніх адшукаў крыўдзіцеля і стаў патрабаваць ад яго кампенсацыі маральных стратаў, ацэненых ім у 3.000 долараў. Пацярпелы звярнуўся ў міліцыю. Цяпер ад прыгавору суда залежыць, як доўга давядзецца чакаць маладой жонцы свайго мужа з месцаў зняволення.

*«Новая газета Сморгони»*

# Мы будуем грамадзянскую супольнасць

**Грамадскія недзяржаўныя арганізацыі (НА) — у Беларусі, здавалася б, толькі паўстаюць. Але на самой справе іх нямала, і яны — неад'емны элемент грамадзянскай супольнасці.**

### Аснова супраціўлення

Беларускія НА апошнім часам арганізуюцца, аб'ядноўваюцца ў асацыяцыі і прыцягваюць да сябе ўвагу. Як зазначыў кіраўнік асамблеі недзяржаўных арганізацыяў Беларусі Уладзімір Роўда, *«разам з незалежнай прэсай менавіта НА складаюць аснову супраціўлення таталітарнаму рэжыму ў краіне»*. Улады здолелі падпарадкаваць сабе не толькі дзяржаўнае чынавенства, але і частку бізнесменаў. Таму жыццё НА, іх праблемы і магчымасці сёння асабліва актуальныя.

Ва ўсіх абласных цэнтрах прайшлі мясцовыя асамблеі НА (пра некаторыя з іх наша газета паведамляла), на якіх, бадай, упершыню за ўсе гады збіраліся разам прадстаўнікі мясцовых грамадскіх ініцыятываў. Самыя розныя па сваёй дзейнасці, вялікія і малыя, сталыя і новаўтвораныя НА абмяркоўвалі амаль адны і тыя пытанні: як жыць, як выжываць.

### Толькі б выжыць

Вось што цікава. У краіне зарэгістравана зараз амаль 2.300 грамадскіх арганізацыяў. У гэтую колькасць уваходзяць як самастойныя ўтварэнні, так і тэрытарыяльныя аддзяленні цэнтральных НА. Але ў асамблеях удзельнічала прыкладна па 50-80 арганізацыяў. Чаму так мала? Рэч, аказваецца, у тым, што многія НА існуюць толькі на паперы. Яшчэ адна частка НА — гэта так званыя «прыдзяржаўныя». Яны нібыта незалежныя, але фактычна абслугоўваюць дзяржаву і яе чынавенства. Падзел паміж рэальным грамадскім сектарам і фіктыўным вельмі яскрава праявіўся падчас асамблеяў.

Кіраўнік гомельскай асацыяцыі «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктар Карніенка казаў падчас сходу ў Гомелі, што *«асаблівы прыліў грамадскай актыўнасці прыйшоўся на канец 80-х — пачатак 90-х, на час пэўнай лібералізацыі. Тады з грамадскімі арганізацыямі мусілі лічыцца ўлады, якія запрашалі «общественников» нават да дзяржаўных справаў»*. Але тых пазіцыяў утрымаць не ўдалося. *«Сённяшні стан можна апісаць словамі: «толькі б выжыць!» І яны выжываюць, ідучы ў прымакі да дзяржавы»*, — казаў Карніенка. А сярод тых, хто трапляе ў апалу, — і аб'яднанні фотамастакоў, і праваабарончыя цэнтры, і чарнобыльскія арганізацыі, і дзіцячыя, маладзёжныя згуртаванні. Ратуючы сваю незалежнасць, яны мусяць супрацьстаяць дзяржаўнаму ўціску.

### Рэальнае і фіктыўнае

Агенцтва сацыяльнай інфармацыі пры магілёўскай асацыяцыі «Кола сяброў» правяло даследаванне мясцовых НА. У вобласці каля 100 НА, і высветлілася, што палова з іх існуе выключна на паперы. Даследаванне паказала яшчэ адну хваробу: не менш 25% усіх НА — аб'яднанні ўсяго аднаго-двух чалавек.

На чым жа спецыялізуюцца астатнія, рэальныя арганізацыі? Вылучаюцца дзве буйныя групы. Палова мае так званую сацыяльную накіраванасць, і большасць з гэтых НА працуе фактычна на глебе размеркавання заходняй гуманітарнай дапамогі і арганізацыі дзіцячага адпачынку за мяжой. Іх існаванне забяспечваецца кантактамі з замежжам. А другая група — «палітызаваная», прапагандуе і адстойвае дэмакратычныя каштоўнасці, правы чалавека. Але ж гэтыя аб'яднанні не адмаўляюцца ад размеркавання замежнай дапамогі.

### Трэба аб'ядноўвацца

Ва ўмовах супрацьстаяння дзяржаўнаму ўціску грамадскія арганізацыі мусяць аб'ядноўвацца. У Гродне лідэр мясцовай грамадскай кааліцыі Сямён Домаш казаў, што *«калі мы самі не здолеем аб'яднацца, хутка нас не будзе»*. Зрэшты, аб'яднаўчыя матывы гучалі на ўсіх сходах. І ўжо ёсць прыклады падобных кааліцыяў. У Магілёве каля 15 НА ужо паўгода працуюць у рамках цэнтра грамадскіх сувязяў, заключыўшы партнёрскія дамовы і дапамагаючы адзін аднаму. Кіраўнік цэнтра Ігар Шары лічыць, што ў сённяшніх умовах іншага шляху ўвогуле няма: *«Заканадаўства неспрыяльнае, чыноўнікі чакаюць ад нас выключна падпарадкавання, эканамічныя ўмовы найгоршыя, — на такой глебе можна выжыць толькі разам»*.

Аб'ядноўваючыся ў асамблеі, НА выпрацоўваюць прынцыпы гэтага аб'яднання. Цікава, што тыя актывісты, якія прыйшлі ў НА з партыяў, настойваюць на жорсткай структуры. Адзін стаіць над іншымі, жорсткая вертыкаль, нехта прадстаўляе ўсіх — вось некаторыя рысы мадэлі паводле «партыйцаў». Але большасць не згодная з падобным падыходам. Роўнасць, партнёрства, салідарнасць і інфармаванасць — прынцыпы, за якімі вызначылася большасць арганізацыяў.

### Калі не мы, то хто?

Беларускія НА пакуль маладосныя, няшмат і іх саміх. Таму, на першы погляд, яны істотна не ўплываюць на жыццё грамадства, бо праца большасці з іх у сённяшніх умовах амаль незаўважная. І тым не менш хтосьці ратуе прыроду, хтосьці дапамагае нямоглым, хтосьці выходзіць у пікеты за свабоду. І яны робяць справу, якую за іх не зробіць ніхто.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

*Эстонія*

## Журналісты выселілі прэм'ер-міністра

**Прэм'ер-міністр Эстоніі Март Сійман прадаў сваю кватэру ў гістарычным цэнтры Таліна. Гэта быў адзіны спосаб адчапіцца ад надаедлівых журналістаў.**

Рэч у тым, што сваю трохпавярховую кватэру прэм'ер купіў прыкладна год назад. Паводле дэкларацыі аб даходах, М.Сійман атрымаў на гэта крэдыт у банку на вельмі істотную суму — мільён эстонскіх кронаў, або 70 тыс. долараў. Зрабіўшы нехітрыя падлікі, журналісты высветлілі, што на выплату крэдыту і працэнтаў сям'я Сійманаў павінна траціць увесь свой даход. На якія ж сродкі яны купляюць ежу і піцьво? Увагу прэсы прыцягнула тое, што крэдыт прэм'ер атрымаў у мясцовым *Uhispank* — тым самым, які мае права на работу з многімі бюджэтнымі праграмамі.

Аднак без даху над галавой прэм'ер-міністр не застанецца — у яго ёсць яшчэ адна кватэра. Праўда, меншая і ў не такім прэстыжным раёне. Так што М.Сійман пераязджае, а журналісты святкуюць перамогу.

# Краіна на мяжы бунту

*Сяляне перакрываюць магістраль*

**Хваля выступленняў фермераў, якая нядаўна пракацілася па Еўропе, можа захлынуць і Эстонію. Прычына простая: сялянская праца становіцца неэфектыўнай.**

Нядаўна большасць перапрацоўчых прадпрыемстваў рэзка знізіла закупачныя цэны на малако. Сёння сабекошт літра малака ў Эстоніі складае 0,2 USD, і ў гэтых умовах закупачная цана ў 0,15 USD робіць яго вытворчасць поўнасцю нерэнтабельнай. Зніжэнне коштаў было выклікана сусветнай кан'юнктурай і імкненнем Эстоніі ўвайсці ў ЕС. Асабліва пацярпелі не кааператывы фермераў, а хутаране. Яны прыгразілі акцыямі пратэсту — накшталт тых, што робяць расійскія шахцёры.

За апошнія шэсць гадоў частка сельскагаспадарчай прадукцыі ў валавым нацыянальным прадукце Эстоніі знізілася з 20% да 4%. Краіна прайшла імклівую індустрыялізацыю, хваліцца ўрад. Вёска гіне! — крычаць сяляне. Яны лічаць, што прычыны вымірання сяла не носяць аб'ектыўнага характару.

З нядаўняга часу з'явіўся і яшчэ адзін фактар — манаполіі. Зліццё перапрацоўчых прадпрыемстваў у канцэрны, якія кантралююць больш за палову мясцовага рынку, дазваляе ім зніжаць закупачныя кошты на сыравіну, пры гэтым не зніжаючы кошт гатовага тавару. Да таго ж манапалісты адмаўляюцца купляць малако ў дробных вытворцаў — хутаранаў, якія трымаюць па дзве-пяць кароў.

Аднак урад Эстоніі, мяркуючы па ўсім, не збіраецца адмаўляцца ад прынцыпу ліберальнай эканомікі. Вёсцы давядзецца канкураваць з іншымі галінамі эканомікі на роўных.

Зрэшты, уладьі тое-сёе абяцаюць сялянам — у перспектыве. Калі Эстонія ўвойдзе ў Еўрасаюз, па падліках урада, ёй будзе перападаць да 140 млн. долараў са штогадовых датацыяў на сельскую гаспадарку, што дазволіць поўнасцю зняць сённяшнія праблемы.

Прыгожыя перспектывы не супакоілі эстонскіх сялян. Нядаўна члены аднаго з сельгаставарыстваў перакрылі аўтамагістраль Талін—Нарва. Натуральна, без вынікаў. Што будзе далей?

**Аляксандр СУЙТС,**
*Талін*

# Эстонцы вераць у NATO

*І шкадуюць, што не далі адпор акупантам*

**Амаль палова жыхароў Эстоніі лічыць, што гарантам стабільнасці і бяспекі краіны з'яўляецца яе членства ў NATO і Еўрапейскім Саюзе.**

Такія вынікі апытання сярод грамадзянаў Эстоніі ва ўзросце ад 15 да 74 гадоў. Сацыялагічнае даследаванне засведчыла: у выпадку ваеннай пагрозы Латвіі, Літве і Эстоніі варта разлічваць перш за ўсё на дыпламатычную дапамогу Захаду — так лічаць 52% апытаных. На непасрэдную ваенную дапамогу спадзяюцца 23%.

Сярод пагрозаў стабільнасці і дэмакратыі 35% эстонцаў паставілі на першае месца ўнутраныя фактары — высокі ўзровень злачыннасці і карупцыі. Праблемы міжнацыянальных адносінаў адсунуліся на другі план.

У анкету былі таксама ўключаныя пытанні, датычныя гісторыі. Так, 70% жыхароў лічаць, што Эстонія ў 1940 годзе была акупаваная савецкімі войскамі. Палова сённяшніх эстонцаў (у тым ліку так званых «русскоязычных») лічыць, што той акупацыі трэба было аказаць збройны супраціў.

*ЕТА*

*Літва*

## 107 долараў — мінімальная зарплата

**Міністэрства статыстыкі Літвы паведамляе, што сярэдняя зарплата ў краіне дасягнула ўзроўню 1.025 літаў (256 долараў).**

Праўда, гэтая лічба — без уліку падатковых выплатаў. Але нават і пасля сплаты ўсіх падаткаў і абавязковых страховак сярэдні літоўскі работнік атрымаў на рукі месячную зарплату ў 747 літаў, або 187 амерыканскіх долараў. Істотны рост заробкаў адбыўся ў траўні—чэрвені гэтага года, калі ўрад падняў памер мінімальнай зарплаты да 430 літаў (107 долараў). Трэба адзначыць, што работнікі дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў зарабляюць крыху менш, чым у прыватным сектары, але розніца гэтая неістотная.

Паказальна, што афіцыйны пражытачны мінімум у Літве складае 125 літаў (31 долар). Як бачым, сярэдні работнік атрымлівае амаль у 9 разоў больш.

## Адамкус не супраць расійскіх салдатаў

**Прэзідэнт Валдас Адамкус выказаўся за перагляд закона, які забараняе войскам Расіі і іншых краінаў СНД удзельнічаць у вучэннях на тэрыторыі Літвы.**

Гэты ж закон забараняе і літоўскаму войску выязджаць на вучэнні на прасторы Расіі і ўсіх іншых краінаў СНД, аднак нічога не гаворыць пра забарону на ўдзел узброеных сілаў Літвы ў манеўрах на Захадзе. Магчымыя змены ў заканадаўстве выкліканыя зусім не «русафільскімі» настроямі прэзідэнта. З такім патрабаваннем выступіла кіраўніцтва *NATO*: ЗША і іншыя члены Паўночна-Атлантычнага альянсу выказаліся за тое, каб расійскія і іншыя войскі маглі мець доступ на тэрыторыю краінаў Балтыі для ўдзелу ў сумесных вучэннях, у тым ліку і ў рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру».

Прэзідэнты ўсіх трох краінаў Балтыі пацвердзілі, што гатовыя «прыняць у сябе» расійскія войскі ўжо ў наступным годзе.

*ELTA*

*Россия*

# Сколько стоит Чубайс

Счетная палата Российской Федерации (аналог нашего госконтроля) решила, что Анатолий Чубайс получает слишком большую зарплату. Напомним, что Чубайс пришел на пост председателя правления РАО «Единые энергетические системы» 4 апреля этого года после скандала вокруг прежнего руководства. Предшественников обвиняли в неразумной продаже акций компании иностранцам, а также в личной нескромности. То есть в завышенных (15 тысяч долларов) ежемесячных окладах. Теперь Чубайса обвиняют в тех же самых грехах.

«Единые энергетические системы» — компания, контрольный пакет акций которой принадлежит государству. Следовательно — Чубайс имеет статус госслужащего, и его оклад не может превышать соответствующего разряда. То есть председатель правления РАО «ЕЭС России» Анатолий Чубайс имеет право получать не более 3 тысяч 200 рублей, или 500 долларов в месяц.

### Борисович в денежном эквиваленте

«Неужели Анатолий Чубайс живет на такую зарплату?» — спросите вы. «Нет, не живет», — ответят вам инспекторы Счетной палаты. Его оклад составляет 36 тысяч рублей (чуть меньше 6 тысяч долларов) в месяц.

Но и этих денег Анатолию Борисовичу мало. Чубайсу ежегодно выплачиваются так называемые представительские расходы (т.е. на костюм, ботинки и парикмахера) — 23 тысячи долларов. К тому же по итогам работы за год председатель правления получает определенный процент от суммы чистой прибыли компании. Если ничего особенного не произойдет, Анатолий Чубайс может рассчитывать по итогам года на вознаграждение в размере около 10 тысяч долларов.

Инспектор Счетной палаты Валерий Мешалкин утверждает: *«Таким образом, заработная плата председателя правления РАО «ЕЭС России» должна составить более 100 тысяч долларов. И это еще не все. Решением совета директоров установлено, что компания несет расходы по личному медицинскому страхованию Чубайса, выплате единовременного пособия при его постоянной или временной нетрудоспособности,* ***расходы по улучшению жилищных условий председателя правления, включая строительство и ремонт***».

### Обрезание

Зависть не имеет границ. Если кому-то много платят — других это злит.

Счетная палата направила письмо председателю правительства РФ Сергею Кириенко с просьбой(!) установить фиксированный должностной оклад председателя РАО «ЕЭС России» Анатолию Чубайсу — 500 долларов в месяц (в рублях по курсу Центробанка на день начисления).

Мы обратились в пресс-службу Анатолия Борисовича с просьбой прокомментировать, как он относится к претензиям аудиторов. Однако в пресс-службе ничего не ответили на вопрос, зачем вообще Анатолию Чубайсу нужна зарплата.

*© Профиль*

## Кто может отделиться от России?

Как показал всероссийский социологический опрос городского и сельского населения, 44% россиян полагают, что сейчас существует вероятность распада России на несколько независимых государств (отрицают эту вероятность 35%). При этом большинство респондентов, не исключающих такую возможность, считают, что в последние годы угроза целостности России усиливается (72%).

Респондентам был задан открытый вопрос (то есть вопрос, предполагающий ответ в свободной форме): «Какие регионы России, на ваш взгляд, вероятнее других могут выйти из состава России?». Конкретный ответ дали 35% опрошенных. Наиболее часто назывались следующие республики и регионы (в % от числа всех ответивших на данный вопрос):

| | |
|---|---|
| Чечня | 26 |
| Кавказ | 21 |
| Татарстан | 11 |
| Дальний Восток, Приморье, Сахалин | 8 |
| Дагестан | 7 |
| Сибирь | 6 |
| Красноярский край | 6 |

*Опрос проводил российский фонд «Общественное мнение»*

*Латвія*

## Давядзецца пачакаць

**Еўракамісія вынесла свой вердыкт: Латвіі няма чаго спадзявацца на ўваходжанне ў Еўрасаюз у першай хвалі прэтэндэнтаў.**

Такую заяву Еўракамісія выдала на мінулым тыдні. І хоць гэта не канчатковае афіцыйнае рашэнне (яно чакаецца да канца года), аднак аптымізму латышам яно не надае. Разам з Латвіяй, хутчэй за ўсё, давядзецца пачакаць яшчэ чатыром краінам — Літве, Балгарыі, Румыніі і Славакіі. На думку брусельскіх экспертаў, гэтым краінам *«не хапае адміністратыўных структур для ўвядзення заканадаўства, якое адпавядае ўзроўню ЕС»*.

**Вераніка ФЕДАРЭНКА**

*Украіна*

## Заплаці за тэлебачанне

**Прэзідэнт канцэрна радыёвяшчання і тэлебачання Валерый Юрчанка паведаміў, што неўзабаве пачнецца трансляцыя першай праграмы украінскага тэлебачання УТ-1 на Паўночную Амерыку праз спадарожнік. Спажыўцоў у гэтага канала павінна быць многа: украінцы — трэцяя нацыя па колькасці ў Канадзе (пасля англамоўных і франкамоўных).**

Сёння на Украіне дзейнічаюць тры агульнанацыянальныя тэлевізійныя каналы і тры праграмы радыё. Плануецца да канца года ўвесці яшчэ два тэле- і тры радыёканалы. Адкуль узяць грошы? Украіна збіраецца перайсці да сістэмы абанементнай платы за карыстанне агульнанацыянальным тэлебачаннем, як гэта прынята ў большасці краінаў Еўропы.

## «Паглыбляць на карысць Украіны»

**Толькі кожны дзесяты жыхар Украіны ацэньвае ўзровень украіна-расійскіх адносінаў як «цалкам здавальняючы». 60% апытаных украінцаў лічаць, што ўзаемадачыненні Украіны і Расіі «трэба паглыбляць», прычым абсалютная большасць выбрала адказ — «паглыбляць на карысць Украіны».**

Кожны трэці з апытаных выказваецца за пашырэнне двухбаковага супрацоўніцтва з Расіяй і іншымі дзяржавамі СНД, але без утварэння наддзяржаўных структураў. У той жа час каля 20% рэспандэнтаў лічаць перспектыўным аб'яднанне дзяржаў СНД у адну дзяржаву. Столькі ж выказаліся за выхад Украіны з Садружнасці.

Кожны дзесяты ўкраінец лічыць, што перспектыўным можа быць толькі курс на інтэграцыю і палітычны саюз з Аб'яднанай Еўропай.

*УкрІнформ*

КРЫМІНАЛ

## Расійскія памідоры для псіхічна хворых

**Пракуратура зацікавілася выпадкам, які адбыўся на Ваўкавыскім кансервавым прадпрыемстве.**

Сёлета з Калінінграда сюды паступіла вялікая партыя трохлітровых слоікаў з забракаванымі памідорамі — амаль на 35 мільёнаў рублёў. Расіяне выставілі прэтэнзіі, што, маўляў, беларусы падсунулі ім пратэрмінаваны тавар.

Сапраўды, тэрмін захоўвання памідораў скончыўся яшчэ ў 1996 годзе. Але самае цікавае, што кансервы былі выраблены зусім не ў Ваўкавыску, а ў далёкім сібірскім горадзе Краснаярску. Любы пісьменны чалавек мог прачытаць гэта на этыкетках. Але прэтэнзіі расіянаў на Ваўкавыскім заводзе чамусьці прынялі і задаволілі. А каб зменшыць страты прадпрыемства, у Ваўкавыску знайшлі «мудрае» рашэнне — «спіхнулі» 600 слоікаў псіхіятрычнаму шпіталю ў Брэсцкай вобласці.

**Мікола ВАСІЛЕВІЧ**

## Гандаль не ўдаўся

**Двое палякаў прадавалі сваю *Audi* ў Гродне. Гісторыя выйшла сумная.**

«Пакупнікі» запрасілі палякаў нібыта да сябе на кватэру. Там адзін атрымаў малатком па галаве, а другому «прызначаўся» нож. Яму, аднак, удалося ўцячы праз балкон. У параненага злачынцы скралі тры тысячы долараў і зніклі. Прычым ніякія яны не гродзенцы, а прыезджыя «гастралёры».

**Васіль ПЯТРОВІЧ**

# Грибов бояться — в лес не ходить

Каждая хозяйка перед приготовлением какого-нибудь блюда уподобляется ученому, который, принимая решение, взвешивает все аргументы «за» и «против». Например, в отношении грибов. С одной стороны, в любом справочнике можно узнать, что в них много полезных минеральных веществ, витаминов групп В, РР, С, Д и каротина, ферментов и белков, из-за которых грибы даже называют растительным мясом. С другой стороны, ходят тревожные слухи об их повышенной радиоактивности и большом количестве грибных отравлений со смертельным исходом. Может быть, вообще стоит отказаться от походов в лес, а есть грибы, выращенные в подземных погребах, как, говорят, делают за рубежом?

Но вот что рассказал доктор медицинских наук Олег Циганенко.

— Это все сказки, что за границей не едят дикорастущих грибов, — гурманы всех стран их очень любят. Промышленное производство экологически чистых грибов там, конечно, более развито, чем у нас. Однако оно не намного уменьшило интерес грибников к походам в лес. Ни в одной стране еще не научились искусственно выращивать боровики, подосиновики, маслята или лисички. Пока «удались» только шампиньоны, вешенки и некоторые другие. Собирают грибы в лесах Америки, особенно Северной, и в Европе (Швейцарии, Польше и др.). Кулинары Франции многим видам грибов предпочитают лисички с каким-то особым соусом. Хотя некоторые народы этот продукт не признают: чукчи и эвенки обходят стороной великолепные моховики и подберезовики, которые встречаются на Севере.

И во всех странах, где собирают дикорастущие грибы, также развита и медицинская помощь при отравлениях. В Америке, например, есть большой Институт токсикологии, где изучаются причины и следствия действия грибных ядов и поиск противоядий. Впрочем, в Америке — свои традиции. Многие индейские племена до сих пор используют определенные виды грибов как наркотик, вызывающий эйфорию и галлюцинации.

Безусловно, ценный продукт с оригинальным вкусом, грибы, тем не менее относятся к группе продуктов повышенного риска.

**— Мне кажется, что вы предлагаете рассматривать грибы как деликатес, а не как повседневную пищу.**

— Именно так. Я считаю, что грибами можно лишь лакомиться, но не наедаться. И объясню почему. Обмен веществ этих живых организмов, которые в последнее время уже не считаются растениями, а выделяются в особую группу, во многом схож с таковым в животном мире. В частности, помимо богатого белкового состава грибы содержат хитин (хитин входит в состав покрова насекомых). Из-за него, в основном, грибы являются тяжелой пищей. Детям вообще их давать не рекомендуется, даже искусственно выращенные. Даже не все взрослые хорошо переносят грибы — у одних бывает аллергия, у других — расстройство желудочно-кишечного тракта.

Кстати, такое расстройство часто принимают за отравление. Уберечься от него просто: не надо съедать целую сковородку жареных грибов сразу. Грибы должны быть приправой, пикантным дополнением и не более. Но сегодня для тех, кому мясо не по карману, грибы становятся бесплатной пищей, разнообразящей скудный рацион. И тогда возникают неприятности.

При анализе грибных отравлений в Украине выяснилось, что это, скорее, проблема социальная. Многие отправились на поиски дикорастущих грибов, не имея достаточных знаний. Ведь некоторые грибы есть можно только после специальной обработки.

**— А какие именно грибы представляют особую опасность для жизни?**

— Даже грибные атласы с цветными картинками не помогают — все равно люди ошибаются. Это надо наблюдать в природе, долго изучать тонкости признаков. Бывает, лишь незначительные нюансы отличают съедобный гриб от смертельно ядовитого, которых у нас растет около двадцати. В основном это пластинчатые грибы: у них с нижней стороны шляпки видны расходящиеся от ножки лучами тонкие пластинки, на которых созревают споры. Более безопасны трубчатые грибы: с нижней стороны шляпки у них пористая, наподобие губки, поверхность, состоящая из мелких трубочек (со спорами). От них, по нашим данным, еще никто не умер,



*Нынешним дождливым летом грибы не собирают разве что ленивые или уж очень сильно занятые. Юные жители города Сморгони Павел Савицкий и Мирек Курмель нашли гриб весом 600 граммов. Пока это абсолютный рекорд для Сморгонского района.*

*Фото «Новая газета Сморгони»*

несмотря на то, что среди трубчатых есть сатанинский гриб, похожий на белый: он ядовит, но не смертелен.

**— Конечно, двадцать названий запомнить трудно. Какой из грибов наиболее часто становится причиной отравления?**

— Можно сказать, в 95% всех смертельных случаев была вина бледной поганки. Этот пластинчатый гриб не зря называют в народе «перевертнем» — так часто он меняет обличья в разных условиях произрастания. Часто его принимают за шампиньон — оба гриба светлого цвета, имеют в верхней части ножки пленочное кольцо, хотя у бледной поганки внизу есть еще одна пленка, но неопытные грибники не обращают на это внимания. Вообще я считаю, что тем, кто плохо в грибах разбирается, лучше держаться от греха подальше и вообще никаких грибов не собирать.

**— А как вы считаете, достаточно ли безопасны грибы, которые продают на рынках? Ведь говорят, что в этом году особенно радиоактивны лисички?**

— Во-первых, хочу подчеркнуть, что токсины ядовитых грибов не имеют к радиации никакого отношения. Но если уж вы заговорили о ней, то можно сказать, что любые — и съедобные, и несъедобные — грибы, которые выросли в зоне с повышенным радиационным фоном, могут содержать такие элементы, как цезий-137 и стронций-90, опасные в больших количествах. Дикорастущие ягоды и грибы, которые продаются на рынках, должны проходить обязательный контроль и сопровождаться соответствующими записями в разрешении на торговлю. Поэтому не советую покупать грибы с рук, нет гарантии, что они безопасны.

**— Люди поговаривают о грибах-мутантах, которые с виду напоминают съедобные, а на самом деле вследствие воздействия радиации переродились в ядовитые?**

— Достоверных данных о существовании таких грибов мы не имеем. Но обнаружили такую ситуацию: нередко симптомы отравления после употребления грибов напоминали те, что наблюдаются при отравлении тяжелыми металлами. В грибах, растущих вблизи промышленных предприятий, вдоль дорог, происходит их накопление. В таких местах собирать грибы нельзя.

**— Вы сделали так много предостережений. А сами-то боитесь собирать грибы или нет?**

— Нет, не боюсь, потому что хорошо знаю, где и какие грибы можно собирать, а какие нельзя. В моей семье давние традиции сбора грибов. Меня этому учили с детства, поэтому за себя я не боюсь.

**Евгения КРЫЛАТОВА**

## Даты і лёсы

### 4 жніўня

**1920.** Старшыня брытанскага ўрада Лойд-Джордж на сустрэчы з наркамам замежных справаў РСФСР Красіным папярэдзіў: што калі савецкія войскі будуць працягваць свой наступ у Польшчы і ўвойдуць у Варшаву, дык Англія ды іншыя дзяржавы Антанты праз тры дні распачнуць новую інтэрвенцыю супраць Расіі. Неўзабаве здарыўся «цуд на Віслe»: Чырвоная Армія пачала адступаць.

**1921.** Чэкісты расстралялі ў Мінску разведчыцу беларускай паўстанцкай арганізацыі «Зялёны дуб» і нявесту атамана Дзергача (Вячаслава Адамовіча) Ганну Доўгерд. Гэтая жанчына, бацьку і брата якой забілі бальшавікі, раней ваявала ў войску Нестара Махно, а потым у «Народным саюзе абароны Радзімы і свабоды» Барыса Савінкава.

**1941.** Гітлер прыляцеў у Барысаў на нараду вышэйшага кіраўніцтва германскіх войскаў на ўсходнім фронце. Нечакана для ўсіх ён загадаў прыпыніць наступ на Маскву і захапіць спачатку Ленінград і Данбас — галоўныя цэнтры ваеннай прамысловасці СССР.

**1942.** Нарадзіўся былы прэм'ер-міністр Новай Зеландыі Дэвід Лэндж, урад якога дамогся абвяшчэння краіны ў 1987 г. абсалютна бяз'ядзернай зонай: у порты гэтай дзяржавы забаронена ўваходзіць нават мірным караблям, што працуюць на ядзерным паліве.

### 5 жніўня

**1858.** Адчынілася першая тэлеграфная лінія сувязі паміж Старым і Новым светам. Каралева Вялікабрытаніі Вікторыя і прэзідэнт ЗША Б'юкенен абмяняліся віншаваннямі праз тэлеграфны кабель, пракладзены па дне Атлантычнага акіяна.

**1908.** У Францыі памёр герой паўстання 1863 г. і Парыжскай камуны, адзін з заснавальнікаў Інтэрнацыянала Валерый Урублеўскі. Ягоная радзіма — мястэчка Жалудок Шчучынскага раёна.

**1918.** Сакратарыят БНР афіцыйна зацвердзіў бел-чырвона-белы сцяг у якасці беларускай дзяржаўнай сімволікі.

**1930.** Нарадзіўся амерыканскі астранаўт Ніл Армстранг — першы чалавек, які ступіў на паверхню Месяца.

**1963.** СССР, Вялікабрытанія і ЗША падпісалі Дагавор пра забарону выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, касмічнай прасторы і пад вадой. Галоўная мэта гэтай дамовы — спыніць забруджванне навакольнага асяроддзя радыеактыўнымі рэчывамі.

**1975.** Акадэмія навук БССР была ўзнагароджаная ордэнам Дружбы народаў.

### 6 жніўня

**1903.** Нарадзіўся вядомы беларускі акцёр Барыс Платонаў, былы мастацкі кіраўнік тэатра імя Я.Купалы. Тым, хто не быў у Купалаўскім тэатры, ён павінен быць вядомы як выканаўца ролі пана Быкоўскага ў фільме «Паўлінка».

**1913.** У Брэсце нарадзіўся былы прэм'ер-міністр Ізраіля Менахем Бегін. Пасля далучэння Заходняй Беларусі Бегін быў дэпартаваны ў Сібір, а пасля пачатку вайны запісаўся ў польскую армію Андэрса і разам з ёй дабраўся да Палестыны.

**1926.** На паседжанні Палітбюро ЦК ВКП(б) абмяркоўвалася пытанне аб далучэнні Гомельшчыны да БССР. Гэты праект падтрымалі Сталін, Каменеў і Троцкі, а «усесаюзны стараста» М.Калінін рэзка выступіў супраць.

**1938.** Нарадзіўся выбітны беларускі кампазітар Ігар Лучанок. Музыказнаўцы кажуць, што вяршыняй ягонай творчасці з'яўляюцца цыклы песень на тэксты Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**1945.** Адбылася атамная бамбардзіроўка японскага горада Хірасімы — першы ў гісторыі выпадак прымянення атамнай зброі. Прэзідэнт ЗША Трумэн, які аддаў загад на бамбардзіроўку, да скону жыцця быў упэўнены, што дзейнічаў на карысць міру.

**1961.** На караблі «Восток-2» стартаваў другі пасля Гагарына савецкі касманаўт Герман Цітоў: за 25 гадзінаў ён зрабіў ажно 17 віткоў вакол планеты (Гагарын, як вядома, абляцеў Зямлю толькі адзін раз.)

**1978.** Памёр галава рыма-каталіцкага касцёла Павел VI (Джавані Бацiста Манціні). Ягоны пераемнік Ян-Павел I узначальваў царкву толькі некалькі тыдняў і памёр 28 верасня. Трэцім Папам у той год быў абраны першы неітальянец з 1522 г. Ян-Павел II (польскі кардынал Караль Вайтыла), папскі тэрмін якога цяпер ужо набліжаецца да рэкорда.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Не прайшло і трох дзён...

Устаноўлены новы рэкорд перасячэння Атлантычнага акіяна водным шляхам. Як паведамляе агенцтва *Reuter*, дацкі паром *CAT Link Five* пераадолеў акіян усяго за 2 дні 20 гадзінаў і 9 хвілінаў. Ён адплыў з Нью-Йорка і, пакінуўшы ззаду амаль шэсць тысяч кіламетраў, закончыў плаванне ў порце англійскага горада Саўтгемптан. Дарэчы, вельмі мала хто спадзяваўся на гэты рэкорд, бо звычайна паром *CAT Link Five* працуе на кароткіх дыстанцыях, возячы пасажыраў паміж двума галоўнымі астравамі Даніі.

## Вяселле ў шпіталі

У амерыканскім горадзе Бостане падчас шлюбнай цырымоніі ў касцёле жаніх страціў прытомнасць проста перад алтаром і атрымаў моцную траўму галавы. Яго даволі тэрмінова даставіць у шпіталь. Аднак калі ён прыйшоў да сябе, то ўбачыў побач з медсястрой... сваю нарачоную і святара. Дзяўчына аказалася настойлівай, вырашыла не адкладваць сваё шчасце да выздараўлення каханага і прывяла ксяндза проста ў палату. Цырымонія прайшла без эксцэсаў. Пра тое, ці правялі маладыя шлюбную ноч у бальнічным ложку, газета *USA Today* сарамліва змаўчала.

*Падрыхтавала* **Алена СУРКО**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1217 Нумар падпісаны ў друк 03/08/98 (14:38) Наклад — 19.680